Пралетары! Ўсіх краін, яднайцеся!

# ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

Орган Беластоцкага абкома і гаркома КП(б)Б і абласнога выканаўчага камітэта

Год выдання другі

№ 288 (357) НЯДЗЕЛЯ 15 СНЕЖНЯ 1940 г.

Цана 10 капеек.

## *СЁННЯ ВЫБАРЫ Ў МЯСЦОВЫЯ СОВЕТЫ*

***Грамадзяне і грамадзянкі! Усе як адзін з'явімся да выбарчых урнаў і аднадушна будзем галасаваць за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных!***

## Усе на выбары!

Сёння мільёны грамадзян заходніх абласцей Беларусі і Украіны з радасцю і лікаваннем пойдуць на выбарчыя ўчасткі, каб аддаць свае галасы за лепшых сыноў і дачок народа —за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных.

На выбарах у Народнае Сабранне, на выбарах дэпутатаў у Вярхоўныя Советы СССР і БССР кандыдаты блока комуністаў і беспартыйных атрымалі бліскучую перамогу. Няма сумнення, што і сённешнія выбары дэпутатаў у мясцовыя органы ўлады яшчэ раз прадэманструюць любоў і давер'е народных мас к партыі Леніна—Сталіна, к Совецкаму ўраду, к кандыдатам блока комуністаў і беспартыйных.

Ці ёсць у нашай партыі падставы разлічваць на паспяховае правядзенне гэтай выбарчай кампаніі?

**Так, ёсць.** Аб гэтым расказваюць сёння з старонак нашай газеты выбаршчыкі разнастайных груп насельніцтва. Яны дзеляцца сваімі пачуццямі, з якімі ідуць сёння да выбарчых урнаў.

Рабочыя і работніцы фабрык і заводаў, ідучы сёння да выбарчых урнаў, успомняць, як іх зверска эксплаатыравалі на капіталістычных прадпрыемствах, якой жудаснай зданню пастаянна вісела над імі беспрацоўе, якімі бяспраўнымі яны былі палітычна. Старых рабочых капіталісты выкідвалі як непатрэбную рэч за вароты фабрыкі, дзеці працоўных не мелі магчымасці атрымаць адукацыю, рабочыя не маглі выбіраць сваіх прадстаўнікоў у органы ўлады; забараняўся рабочы друк, рабочыя дэманстрацыі.

Усё гэта канула ў вечнасць. Круглы год дымяць фабрыкі і заводы, кожны рабочы ўпэўнен у заўтрашнім дні; няма і не будзе ўжо больш беспрацоўя. Старым рабочым забяспечана матэрыяльная дапамога дзяржавы. Для дзяцей рабочых адкрыты ўсе навучальныя ўстановы. Рабочыя вылучаюць і выбіраюць у органы ўлады сваіх-жа таварышоў па рабоце.

Усяго гэтага рабочы клас дасягнуў пад кіраўніцтвам нашай вялікай партыі Леніна—Сталіна. Галасуючы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных, рабочыя і работніцы будуць галасаваць за большэвіцкую партыю, за яе палітыку, за сваё радаснае, шчаслівае жыццё.

Сяляне і сялянкі, ідучы сёння да выбарчых урнаў, успомняць, як над імі глуміліся памешчыкі, асаднікі, кулакі, паліцэйскія. Лепшыя землі знаходзіліся ў руках гэтых крывасмокаў-эксплаататараў. Сялянскія палоскі зямлі былі заціснуты памешчыцкімі маёнткамі, кулацкімі, асадніцкімі і манастырскімі масівамі. Селянін не меў права зайсці ў панскі лес сабраць грыбоў ці ягад. Селянін плаціў да 100 розных падаткаў. Запалкі, соль, газа лічыліся раскошай у сялянскай хаце. Варта было каму-небудзь з сялянскай сям'і захварэць, як для лячэння трэба было прадаць апошнюю карову. Сялянскія дзеці раслі непісьменнымі, ні аб якіх палітычных правах селянін і думаць не мог. У вышэйшых і мясцовых органах улады сядзелі тыя-ж памешчыкі, кулакі, асаднікі.

Усё гэта зараз знішчана навекі. Памешчыцкія і асадніцкія землі разданы сялянам бясплатна. З вёскі зніклі ненавісныя фігуры памешчыка і асадніка. Пакупная здольнасць сялянскіх мас значна павысілася. Не аб запалках, солі, газе думае зараз селянін,—ён прад'яўляе попыт на дабротныя тканіны і абутак, на мэблю і іншыя разнастайныя тавары. У вёсках адкрыты сотні школ, бальніц, акушэрска-фельчарскіх пунктаў. Перадавыя сяляне добраахвотна аб'едналіся ў калгасы, бо яны ведаюць, што калгасны шлях — гэта адзіна правільны шлях, гэта шлях да культурнага, заможнага жыцця. У мясцовыя органы ўлады сяляне вылучылі сваіх-жа аднавяскоўцаў — лепшых актывістаў калгасаў і працоўных аднаасобнікаў.

Гэтай перамогі сяляне дабіліся дзякуючы мудрай палітыцы нашай партыі. Галасуючы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных, сяляне і сялянкі будуць галасаваць за большэвіцкую партыю, за яе палітыку, за сваё свабоднае і радаснае жыццё.

Вялікія змяненні адбыліся і ў жыцці нашай інтэлігенцыі. Совецкі народны настаўнік акружан усеагульнай любоўю і ўвагай народа, партыі і ўрада. Совецкім артыстам не трэба больш быць у кабале ў лоўкіх тэатральных дзяльцоў. Ім створаны ўсе ўмовы для творчай работы. Совецкаму мастаку не трэба больш шукаць выпадковых заработкаў у рысаванні шыльд, як гэта было ў Польшчы. Совецкаму ўрачу не трэба шукаць выпадковых заработкаў ад прыватнай практыкі. Совецкаму пісьменніку не пагражае паліцэйская цэнзура. Увесь атрад совецкай інтэлігенцыі мае неабмежаваныя магчымасці тварыць у славу свайго народа. Сотні настаўнікаў, артыстаў, мастакоў, пісьменнікаў, урачоў народ вылучыў кандыдатамі ў дэпутаты мясцовых органаў улады.

Гэтых перамог совецкая інтэлігенцыя дабілася пад кіраўніцтвам нашай большэвіцкай партыі. Ідучы сёння да выбарчых урнаў, галасуючы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных, інтэлігенцыя будзе галасаваць за большэвіцкую партыю, за яе палітыку, за свае новыя творчыя поспехі на дабро народа.

Увесь свет ахоплен полымем другой імперыялістычнай вайны. Мільёны дзяцей згубілі сваіх бацькоў, жоны—сваіх мужоў, бацькі—сваіх сыноў. Цэлыя гарады разам з людзьмі ў адну ноч ператвараюцца ў груду руін і трупаў. Толькі наш народ, дзякуючы сталінскай знешняй палітыцы, не ўдзельнічае ў гэтай вайне. Совецкі народ выратаваў жыццё і маёмасць сваіх адзінакроўных братоў, насяляўшых былую Заходнюю Беларусь і Украіну. У Совецкі Саюз ўліліся народы Эстоніі, Латвіі, Літвы, Бесарабіі і Паўночнай Букавіны. Наша краіна аб'ядноўвае 16 дружаственых рэспублік.

Ідучы сёння да выбарчых урнаў, аднадушна галасуючы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных, гэтым самым выбаршчыкі будуць галасаваць за мудрую знешнюю палітыку нашай партыі, за мірную творчую працу, за далейшае ўмацаванне нашай цудоўнай радзімы.

Усе на выбары, таварышы выбаршчыкі!

Усе як адзін галасуйце за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных!

Няхай жыве наш любімы правадыр вялікі **СТАЛІН!**

## РАБОЧЫЯ ТРОХГОРКІ— ТЭКСТЫЛЬШЧЫКАМ БЕЛАСТОКА

Сёння ў беластоцкіх тэкстыльшчыкаў, як і ва ўсіх працоўных заходніх абласцей УССР, БССР і Карэла-Фінскай ССР, вялікае свята. Народ на аснове самай дэмакратычнай у свеце Сталінскай Канстытуцыі выбірае лепшых з лепшых сваіх прадстаўнікоў у мясцовыя органы ўлады.

У ліку вылучаных кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных мы бачым імёны слаўных ініцыятараў стаханаўскага руху, тэкстыльшчыкаў-многастаночнікаў — Пятроўскай, Гершковіча, Жыўлюк і іншых. Гэтыя невядомыя ў панскай Польшчы людзі зараз паказваюць узоры соцыялістычнай працы. Вялікае давер'е аказаў ім народ!

Аднадушна галасуючы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных, сёння працоўныя Беластока яшчэ раз прадэманструюць перад усім светам сваю любоў да соцыялістычнай радзімы, сваю згуртаванасць вакол совецкага ўрада, вакол комуністычнай партыі і таварыша Сталіна.

Няхай жыве Сталінская Канстытуцыя!

Няхай жыве сталінскі блок комуністаў і беспартыйных!

Няхай жыве вялікі правадыр народаў, родны і любімы таварыш Сталін!

Ад імені калектыва Маскоўскай Трохгорнай мануфактуры ім. Дзержынскага:

**Саламаціна** — сакратар партыйнага камітэта;

**Свірэнка** — дырэктар камбіната;

**Рагаткін**—старшыня фабкома.

Масква. (Па тэлефону).

—o—

## Новы калгас імені 15 снежня

У часць выбараў у мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных у вёсцы Баброўня, Скідэльскага раёна, арганізаваўся новы калгас.

Думка пра калгас узнікла на перадвыбарчым сходзе, на якім выбаршчыкі гэтай вёскі сустрэліся з кандыдатамі ў дэпутаты сельскага Совета. Слова ўзяў селянін-бядняк Грыгор Касцевіц.

— Жыццё сялян усяго Совецкага Саюза,—сказаў ён,—сведчыць аб тым, што іншага шляху да заможнага і культурнага жыцця, акрамя калгаснага, для селяніна няма. 15 снежня будзем выбіраць сваіх сялян у органы совецкай улады. Ніколі не бывала, каб сяляне ўдзельнічалі у кіраванні дзяржавай. У часць гэтай падзеі прапаную арганізавацца ў калгас. Мы даб'ёмся таго, каб наш малады калгас стаў перадавым у раёне.

Прапанова тав. Касцевіца была сустрэта з адабрэннем. На гэтым-жа сходзе арганізавалася ініцыятыўная група, у якую ўвайшлі Грыгор Касцевіц, Васіль Дарашкевіч, Віталій Будзько, Глафіра Курыла і іншыя.

Назаўтра з 22 двароў сяла 17 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак прынеслі заявы аб уступленні ў калгас. На агульным сходзе калгаснікаў Грыгор Касцевіц выбран старшынёй праўлення. Калгасу дана назва «15 снежня».

**А. Бярозка.**




Малюнак мастака А. Фрыдмана.

## Беласток напярэдадні выбараў

Прайдзіце па людных вуліцах Беластока, загляніце на выбарчыя ўчасткі, у святочна прыбраныя кватэры —і ўсюды вы сустрэнеце атмасферу ўрачыстай падрыхтаванасці, адчування блізкай сустрэчы чагосьці вялікага.

Сотні агітатараў разышліся па сваіх участках. Тут моладзь і старыя, ткач і электраманцёр, машыністка і настаўнік, шофер і інжынер; комуністы і беспартыйныя; беларусы і палякі, яўрэі і рускія. Агітатары яшчэ раз абходзяць сваіх выбаршчыкаў. Яны разносяць запрашальныя білеты, запісваюць толькі што прыбыўшых, выяўляюць хворых, да якіх трэба прысланць машыну. Усюды іх прымаюць як чаканых гасцей:

— Калі ласка!

—Прошэ бардзо!

— Пожалуйста!

— Біттэ зеер!

А на ўчастках?

* * *

Участкі поўнасцю гатовы да сустрэчы выбаршчыкаў.

Вось участак № 8. Тут усё гатова. Спіс 1. 400 выбаршчыкаў не мае ні адной недакладнасці. Пад ўчасткам шэсць пакояў—зала чакання, буфет, дзіцячы пакой, зала выдачы бюлетэняў, пакой, дзе кабіны і ўрны чакаюць ужо выбаршчыкаў, пакой для выхаду прагаласаваўшых. Усе пакоі любоўна афармлены: партрэты правадыроў, фотамантажы, лозунгі. У памяшканні людна: выбаршчыкі прышлі яшчэ раз азнаёміцца з размяшчэннем пакояў, з парадкам галасавання.

Мы пабывалі на многіх выбарчых участках горада. Усе яны жывуць яркім, змястоўным, поўнакроўным жыццём. А горад?

* * *

Вечар. Электрычнасцю заліты вуліцы. У яе святле зіхаціць святочнае ўбранне горада, адбівае чырванню сцягоў, песціць вока маляўнічасцю пано і плакатаў.

Плошча Советаў. Вялікі партрэт правадыра, любімага Сталіна, з чыім імем у сэрцы праз некалькі гадзін да выбарчых урнаў рушаць тысячы свабодных грамадзян, каб яшчэ раз прагаласаваць за сваё шчасце. Над партрэтамі высока ў вячэрняй сіні прамянее чырвоная зорка, як сімвал вызвалення. А побач з партрэтам правадыра—партрэты яго баявых саратнікаў—кіраўнікоў партыі і ўрада.

Вялікае, мастацкае пано супроць Дома Чырвонай Арміі адлюстроўвае дружбу народаў Совецкага Саюза, якія пад праменнямі Крэмлёўскага сузор'я плячо ў плячо ўпэўнена крочаць наперад, да зіяючых вяршынь комунізма.

На вуліцах развешаны плакаты з партрэтамі кандыдатаў. Пано і транспаранты ілюстрыруюць правы і абавязкі грамадзян, запісаныя ў Канстытуцыі, паказваюць нашы поспехі, нашы дасягненні.

Калі мы пішам гэтыя радкі, на выбарчыя ўчасткі пачалі збірацца першыя выбаршчыкі. З нецярплівасцю яны чакаюць 6 гадзін, каб першымі апусціць у ўрну бюлетэні і прагаласаваць за сваё шчаслівае сёння і яшчэ больш светлае заўтра.

**М. Семашка, Т. Лясовіч.**



**Кандыдаты ў дэпутаты Беластоцкага абласнога Совета.** Верхні рад (злева направа): С. О. Прытыцкі, Ю. Я. Якімовіч, Б. Г. Ічкоўскі, А. П. Місюроў, С. Э. Рыбалтоўскі, Я. В. Вашчэровіч, С. В. Жыўлюк, О. М. Семянюк Ф. В. Маліноўскі, М. І. Дзьячук. (Ніжні рад): М. М. Навотка, Н. І. Грыбаедаў, М. К. Корабаў, Т. П. Стрыжак, А. С. Мілашэвіч, А. М. Міснікевіч, А. І. Савалаў, Л. О. Прытыцкая, В. А. Бурдзін. Н. І. Валькоў.

